Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр

# Саха

Падпісная плата:

за год . . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
Вільня, Віленская 8—3.

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ і КООПЭРАЦЫІ,

выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

№ 4 | Вільня. Сьнежань 1930 г. | Год I.



## Зьмест:



ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

*Зьвяртаем увагу грамадзян, якія хочуць надалей атрымліваць наш месячнік, што часопіс будзе высылацца* **толькі тым, ад каго атрымана належная падпісная плата.**

**Адміністрацыя.**

Год І-ы № 4

# САХА

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

Вільня Сьнежань 1930

*Усіх паважаных падпішчыкаў і чытачоў рэдакцыя „Сахі“ вінщуе з надыходзячымі сьвятамі!*

## Аб рахаунiцтве у гаспадарцы.

Бадай што кожны селянін на вёсцы скардзіцца на свой цяжкі лёс, на кепскі стан гаспадаркі, на дрэннае жыцьцё. Кожны з іх знаходзіць гэтаму якую-небудзь прычыну і кожны з іх у сваёй бядзе і нэндзы віваць другога, абмінаючы сябе. А калі добра прыглядзецца ды разьмяркаваць дык знойдзем ня малую віну і з боку тых, якія скардзяцца. Праўда, што і працуюць яны да крывавых мазалёў ад рана да рана, не пакладаючы, як кажуць рук, не шкадуючы ні сілы ні часу, а добрых вынікаў з гэтае працы ўсё-ж ня відаць.

У чым-жа тут прычына? Што-ж павінен рабіць селянін, каб палепшыць сваё жыцьцё?

Ён павінен узяцца за працу ня толькі над гаспадаркай, але і над самім сабою. Ён павінен усімі сіламі і спосабамі старацца падняць свой культурны ўзровень. Шмат хто можа скажа, што як ты гэта зробіш, калі ў нас больш як 80% сялян няпісьменных, цёмных, як восеньняя ноч. І тут ёсьць рада. Цэлай вёскай зьбярэце па грошу і залажэце бібліатэку чытальню. Калі будуць кнігі заўсёды знойдзецца ў вёсцы граматны чалавек, які ня толькі сабе, але і другім пачытае, абы толькі былі слухачы і зацікаўленасьць. Але трэба сазнацца, што на чытаньне ў нас на вёсцы глядзяць скоса, як на марнаваньне часу, як на рэч, якою калі і можна пабавіцца, дык толькі ў сьвяточны дзень. Ці-ж такі пагляд ня дзіўны! Цяпер, у зімовую пару, калі нашы сяляне цэлымі тыднямі сланяюцца бяз працы, свае вольныя хвіліны аддаюць гарэлцы—ці-ж-бы ня лепей было-б сабрацца ў хаце і паслухаць, як жывуць і гаспадараць людзі ў іншых старонках напр., у Даніі, Чэхіі, Нямеччыне і інш., дзе гаспадарка стаіць высока і дзе ўмеюць гаспадараваць.

Якою-ж павінна быць гаспадарка? Адказ просты: яна павінна быць так уладжана, каб у ёй марна нічога не прападала, каб усё ў ёй было выкарыстана да астатку, каб пры найменшых выдатках дасягнуць, як найбольшых вынікаў. Што гэта значыць? Гэта значыць што толькі тая праца лічыцца карыснай, якая на кожную патрачаную адзінку, напр. злот, дае большы прыбытак, большы працэнт. Напр.,

ёсьць недагледжаны сад, які дае 100 пуд. садовіны. Сад гэты дагледзелі, абкапалі, абчысьцілі, угнаілі, наагул патрацілі капітал у 40 зл. Калі на другі год гэты сад дасьць ня 100 а 150 пуд.—ужо з нашае працы есьць карысьць, мы улажылі 40 зл. а атрымліваем 50 п. садовіны (калі нават лічыць па $1^1/_2$ зл. пуд дык і то ўжо 35 зл. прыбытку), значыцца капітал надарма не патрачаны, а наадварот даў прыбытак. У праціўным выпадку, каб у сад не ўлажылі капіталу, ён зачах-бы і перастаў-бы даваць садовіну. Усё гэта рэч зразумелая. Але як упэўніцца, як пераканацца, як вырахаваць што тое ці іншае прыносіць выгады, дае карысьці, а ня страты, каб наша праца не пайшла марна. Мэтаю гэтае стацьці і ёсьць як рахаваць, як контраляваць вынікі свае працы.

Кожная гаспадарка мусіць быць дапасавана да тых умоваў сярод якіх яна знаходзіцца. Напр., адчынілася цукраварня—суседнія гаспадаркі сьмела могуць сеяць цукровыя буракі. Для таго што умовы могуць мяняцца і гаспадарка сваечасна павінна быць дапасавана да гэтых новых умоваў. Калі, напр. замест цукраварні адчыніўся крахмальны завод — спыніць буракі, а павялічыць пасадку бульбы. Няма што казаць што гаспадарам, якія жывуць блізка ад гораду ёсьць большае вырахаваньне пашыраць агародніну, чым збажовыя расьліны.

Што-ж трэба рабіць і як трэба паставіць гаспадарку каб яна адпавядала вышэйпададзенаму і каб яна была чулаю да ўсяго таго, што робіцца навокал? Кожны гаспадар павінен вывучаць сваю гаспадарку, знаходзіць яе асаблівасьці і залежнасьць ад акружаючых яе варункаў. Дасягнуць-жа гэтага вывучаньня — можна толькі з алавіком у руках на падставе рахункаў. Толькі праз рахункі мы, як у люстры, можам бачыць ці карысная тая ці іншая галіна працы ў гаспадарцы ці некарысная, якую галіну працы трэба павялічыць, якую паменшыць. Ці-ж не вырахаваньне заставіла нашых сялян сеяць канюшыну, віну, люцэрну. Без рахунку ня можа быць добрае гаспадаркі. Толькі той можа быць добрым гаспадаром, хто ведае што ў яго ёсьць, чаго не хапае, колькі пасееў, колькі ўрадзіла, якую карысьць прынесла яму тая ці іншая галіна працы і на якую з іх трэба зьвярнуць больш увагі. Напр., калі жывелагадоўля дае больш прыбытку—яе і трэба пашырыць на кошт таго, што прыносіць страты. Што без рахунку ня можна абыйсьціся, ня можна брацца за працу, гэта кожнаму бадай што вядома. Але ў нас гэта робіцца ня так як у людзей, не з алавіком у руках, а ў галаве, як кажуць. Памяркаваў трохі, памяркаваў і досыць, а каб адзначыць кожны крок, кожнае зьявішча ў гаспадарцы ў спэцыяльна вызначанай на гэта кніжцы—гэтага наш селянін яшчэ не зразумеў. Бяднейшы адгаворваецца тым, што няма чаго рахаваць, дай зямлі тады і буду рахаваць, а багацейшы ў свой чарод, што ў яго і без гэтага шмат хлапотаў, што ў яго ўсе рахункі ў галаве і г. д. Можа і знойдзецца які-колечы адзін гаспадар, які вядзе рахаўніцтва. Але вядзе яго на свой манер. Абрахаваў на кавалачку паперы, а потым і закінуў яго, затраціў. З такога рахаўніцтва мы ня можам убачыць агульнага стану гаспадаркі. Толькі сыстэматычнае пісоўнае вядзеньне рахаўніцтва, на спэцыяльна прызначаных да гэтае мэты кнігах, можа

наладзіць гаспадарку, каб яна была разумнаю гаспадаркай. Кожная маленькая крама, не гаворачы ўжо аб вялікіх крамах, заводах, фабрыках, банках і інш. вялікіх гаспадарках, каб не вяла рахаўніцтва сваіх тавараў і зыскаў—загінула-б. А ці-ж нават малая сельская гаспадарка ня больш скамплікаваная рэч, як крамка? Гэта даўней, калі вялася гэтак званая натуральная гаспадарка, рахаўніцтва было непатрэбна, бо ўсё вытваралася і спажывалася адною і тою-ж самаю гаспадаркаю. Цяпер-жа, калі кожны гаспадар абыйсьціся тым, што ён вытварае, ня можа, калі ён павінен вырахаваць як пражыць з свае гаспадаркі і мець яшчэ карысьць, бяз правільна ведзенага рахаўніцтва немагчыма нават у самых дробных гаспадарках. Кожная паасобная гаспадарка зьяўляецца часткаю ўсяе дзяржаўнае гаспадаркі цалком і адно ад другога знаходзіцца ў залежнасьці. Калі паднімаюцца і мацнеюць паасобныя гаспадаркі, мацнее і багацее дзяржава, і наадварот.

Шмат можна было-б яшчэ прывесьці прыкладаў, якія-б сьведчылі аб неабходнасьці вядзеньня правільнай, сыстэматычнай рахунковасьці ў гаспадарцы, але і гэтага досыць.

Перш за ўсё чым брацца за рахунковасьць, кожны гаспадар павінен ведаць стан свае гаспадаркі, іначай кажучы, павінен ведаць што ў яго ёсьць. Дзеля гэтае меты трэба зрабіць так званы інвэнтарны сьпіс свае гаспадаркі, усяе свае маемасьці. Сюды павінна ўвайсьці ўся зямля, якую мае гаспадар—сад, жывёла, сельска-гаспадарчыя прылады, грошы, збожжа, хатнія рэчы, грошы і рэчы пазычаныя каму-небудзь, агулам усё, што толькі ёсьць у гаспадарцы. У часе запісу інвэнтару трэба азначыць вартасьць паасобных рэчаў у тагачаснай цане. Інвэнтар павінен мець прыблізна такі выгляд:

## ІНВЭНТАР ГАСПАДАРКІ NN . . . . .

на 1 студзеня 1931 году.

| Чарг. № | НАЗОВЫ РЭЧАЎ | Колькасьць | Вартасьць | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | зл. | гр. | зл. | гр. |
| | I. Зямля | | | | | |
| 1 | Пад будынкамі і панадворкам | 1/2 дз. | 200 | — | 200 | — |
| 2 | Агарод . . . . . . . . . . | 1/2 дз. | 200 | — | 200 | — |
| 3 | Ворнае . . . . . . . . . . | 3 дз. | 300 | — | 900 | — |
| 4 | Сенажаць . . . . . . . . | 1 1/2 дз. | 400 | — | 600 | — |
| | II. Будынкі | | | | | |
| 5 | Хата пабуд. у 1924 г. . . . | 1 | 1500 | — | 1500 | — |
| 6 | Гумно — 1925 г. . . . | 1 | 800 | — | 800 | — |
| 7 | Хлявы — 1927 г. . . . | 1 | 500 | — | 500 | — |

Далей трэба падаць яшчэ: жывёлу, сельска-гаспадарчыя прылады, збожжа, харчы, хатнія прылады, даўжнікоў і інш.

Кожны гаспадар можа дадаць яшчэ да гэтага і другія аддзелы свае маемасьці, гэта залежыць ад гаспадаркі. Зрабіўшы такую запісь, трэба падрахаваць у слупку „усяго" колькі каштуе ўся гаспадарка, дзеля таго, што вартасьць гаспадаркі з часам мяняецца, цэны павінны таксама зьмяняцца. З гэтае інвэнтарнае запісі вынікае патрэбнасьць другой. Ня кожная гаспадарка можа абыйсьціся толькі сваімі сродкамі — некаторым прыходзіцца рабіць даўгі. Гэтыя даўгі павінны брацца пад увагу і для іх таксама павінна быць адведзена старонка ў кніжцы, якая прыблізна павінна мець такі выгляд:

| Чарг. № | КАМУ | Зл. | Гр. |
|---|---|---|---|
| 1 | Зьвярнуць доўгу коопэратыву „Пчала" . . . . . . . . . . . | 15 | — |
| 2 | Аддаць доўгу Антосю Блізкаму . . . | 50 | — |
| | разам . . | 65 | — |

Гэтыя даўгі, якія надалей будзем называць пасывам, трэба адлічыць ад агульнае вартасьці гаспадаркі — актыву. Напрыклад, калі па інвэнтарнаму сьпіску актыў выносіць 5.000 зл. то ад іх трэба адлічыць 65 зл. пасыву, якія раней ці пазьней трэба будзе зьвярнуць. Такім чынам, агульная вартасьць гаспадаркі будзе: 5.000 — 65 = 4935 злотых. Калі пасыў большы за актыў, гаспадарка мае дэфіцыт, руйнуецца.

З актыву і пасыву можна адразу бачыць стан гаспадаркі. Па актыву мы бачым з чаго складаецца гаспадарка і якія мае сродкі. Гэта мае вялікае значэньне. Напр. мы бачым, што ёсьць шмат збожжа ці корму, мы можам павялічыць лік жывёлы, ці іншую галіну гаспадаркі.

Апрача інвэнтарнае кнігі, актыву і пасыву, трэба весьці і кнігу прыходаў і расходаў. У кнігу прыходаў заносіцца ўсё, што дае сякітакі прыбытак, нічога не абмінаючы, а ў кнігу выдаткаў — усе расходы зьвязаныя з гаспаркай, запісваючы кожны выдадзены грош у тую графу, да якое ён належыць. Добра было-б на кожную галіну працы ў гаспадарцы мець у кніжцы асобны слупок (графу), каб пад канец году, падсумаваўшы і параўнаваўшы прыход і расход кожнае галіны гаспадаркі бачыць што прынесла прыход, а што расход, але з прычыны таго, што было-б шмат слупкоў, каб пералічыць усе галіны працы ў гаспадаркі, мы абмежымся агульнымі слупкамі пры якіх кніга прыходаў і расходаў будзе мець больш-менш такі выгляд:

ПРЫХОД:

| | З гаспадаркі | | З інш. крыніцаў | | Агулам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | зл | гр. | зл | гр. | зл. | гр. |
| СТУДЗЕНЬ | | | | | | |
| Гатоўка . . . . . . . . . | — | — | — | — | 37 | 50 |
| За 10 пуд. жыта . . . . . | 25 | — | — | — | 25 | — |
| Зарабл. ў лесі . . . . . . . | — | — | 10 | — | 10 | — |
| 60 літр. малака . . . . . | 18 | — | — | — | 18 | — |
| Усяго . . | 43 | | 10 | | 90 | 50 |
| ЛЮТЫ | | | | | | |

РАСХОД:

| | На гаспадарку | | На утр. сям'ї | | Агулам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | зл. | гр. | зл | гр. | зл. | гр. |
| СТУДЗЕНЬ | | | | | | |
| Палазы ў сані . . . . . . . | 10 | | — | — | 10 | — |
| 2 kg. цукру . . . . . . . . | — | — | 3 | 40 | 3 | 40 |
| Пранумэрата „Сахі“ . . . . | — | — | 5 | — | 5 | — |
| Рэпарацыя хамута . . . . . | 8 | — | — | — | 8 | — |
| Усяго . . | 18 | | 8 | 40 | 26 | 40 |
| ЛЮТЫ | | | | | | |

Калі гаспадар хоча ведаць стан паасобнае галіны гаспадаркі, напр падлічыць карыснасьць трыманьня курэй, ён павінен узяць расчынены сшыток і на левай яго старонцы пісаць усе выдаткі, зьвязаныя з гадоўляю курэй, а на правай прыход ад курагадоўлі.

РАСХОД: Рахунак птушніцтва ПРЫХОД:

| Калі | ЗЬМЕСТ | Сума зл. | Сума гр. | Калі | ЗЬМЕСТ | Сума зл. | Сума гр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | СТУДЗЕНЬ | | | | СТУДЗЕНЬ | | |
| 5 | Узята гаспадын. 2 п. ячменю . . | 5 | 20 | 12 | Атр. за 90 яек . . | 13 | 50 |
| | | | | 20 | За 2 пеўні . . . . | 4 | 00 |
| 17 | Яшчэ 1 п. ячм. . . | 2 | 60 | | | | |

Падобны ўзор мы можам прыстасаваць да любое галіны гаспадаркі, напр., калі захочам пераканацца ці каровы даюць нам карысьць ці страту, вядзём такі-ж самы рахунак, запісьваючы падрабязна ў расход усе выдаткі, як сена і інш. корм, а ў прыход — малако, масла, сыр, гной і інш. З параўнаньня расходу і прыходу можам бачыць ці карысна ці не карысна трыманьне каровы.

Добра наладжаная гаспадарка павінна весьці падрахункі кожнае галіны працы, калі не ў падрабязных, то хоць у агульных рысах і больш выдатныя галіны, як напр. рахунак птушніцтва, рахунак паляводзтва, рахунак жывёлагадоўлі, а таксама і рахунак утрыманьня сям'і. Вельмі пажадана весьці паасобны рахунак каня, бо ў некаторых мясцовасьцях конь апрача працы на ральлі другое карысьці не дае. Ці варта тады яго трымаць? У больш культурных старонках малыя гаспадаркі каня зусім ня трымаюць, а ўсю працу каня выконваюць каровы альбо валы. Агулам няхай кожны гаспадар спыніцца над гэтым, разважыць, разьмяркуе і прыступае да выконваньня рахаўніцтва ў сваёй гаспадарцы, а праз кароткі час ён упэўніцца ў яго карыснасьці.

Наастатак трэба сказаць што кожная гаспадарка павінна весьціся па абдуманаму пляну, каб ня траціць надарма грошы на што папала. Для гэтае мэты вялікае значэньне мае каштарыс. Кожны гаспадар наперад ведае больш менш свае прыбыткі і выдаткі і вось згодна сваім прыбыткам, ён і павінен, улажыць каштарыс выдаткаў на год альбо на паўгода нічога ў ім не абмінуўшы, а потым з наплывам грошай выконваць яго трацячы грошы на тое, што ў першую чаргу найпільней патрэбна.

Шмат яшчэ можна было-б напісаць тут аб карыснасьці рахаўніцтва ў гаспадарцы, але з браку мейсца абмежымся гэтымі радкамі.

**М. Салан.**

---

# Нарысы па коопэрацыі.

## Разьдзел I.

### 1. Што такое коопэрацыя?

За апошнія гады коопэратыўны рух ува ўсіх краінах старога і новага сьвету набраў шырокага размаху. Рух гэты, якім захоплены шырокія колы працоўных мас, дакаціўся і да нашых вёсак і мястэчак, дзе, у залежнасьці ад прабуджэньня ў працоўных масаў нацыянальнай і соцыяльна-палітычнай сьведамасьці, зьяўляецца да яго ўсё большая зацікаўленасьць.

Людзі пачынаюць пераконвацца, што толькі шляхам самадзеяльнасьці і арганізаванасьці можна сучасныя цяжкія абставіны жыцьця перамяніць на лепшыя.

Ніхто не дапаможа працоўным масам, апрача іх самых, калі яны будуць у належны спосаб арганізаваны.

Адным з відаў падобнага роду арганізацый і зьяўляецца якраз сучасная коопэрацыя.

Пад словам „коопэрацыя“ трэба разумець супрацоўніцтва, супольную працу. Асноваю ўсякай коопэрацыі ці супрацоўніцтва зьяўляецца злучэньне высілкаў некалькіх асобаў, скіраваных да агульнае гаспадарчае мэты. Зразумела, якую перавагу дае такая, ў тэхнічным сэнсе, коопэрацыя, якая ў выніку застасаваньня стварае большую сілу, чым сума ўсіх складовых сілаў, калі-б яны прыкладаліся кожная паасобку.

Ад гэтай тэхнічнай коопэрацыі трэба адрожніваць коопэрацыю, як асобны від арганізацый, якія маюць свае пэўныя мэты і заданьні.

Паводле праф. Ф. А. Шчэрбіны коопэратывамі называюцца **„соцыяльна асьведамленныя і дзеючым законам абумоўленыя ассоцыяцыі працы і прадпрыемстваў, якія арганізуюцца ў інтарэсах працоўных масаў.** (Кооп. Респ. Львів № 4,-29 г.).

„Фармальнай адзнакай кожнага коопэратыва, — паясьняе праф. Шчэрбіна — з‘яўляецца яго арганічны, згодны з дзеючымі законамі, статут, якім акрэсьліваецца як характар коопэратываў, так у роўнай меры, і іх функцыі ў галіне народнай вытворчасьці, абмену і спажываньня“.

Згодна акрэсьленьню, якое дае Туган-Бараноўскі, **„коопэратыў ёсьць такое гаспадарчае прадпрыемства некалькіх добравольна аб‘яднаных асобаў, якое мае на мэце даваць сваім сябрам не найбольшыя прыбыткі на ўложаны капітал, а павялічэньне, дзякуючы агульнаму гаспадараваньню, трудавых прыбыткаў сваіх сяброў, або паменшаньне выдаткаў апошніх“.**

У коопэратыўнай літэратуры ёсьць шмат іншых акрэсьленьняў коопэрацыі, падаваць якія нам цяпер няма патрэбы. Зрэшта можна лічыць агульна прызнаным, што:

1) коопэратыў ёсьць грамадзкая арганізацыя, належным спосабам зарэгістраваная і дзеючая згодна пэўнаму статуту.

2) коопэратыў ёсьць гаспадарчае прадпрыемства, якое аб‘ядныовае гаспадарчыя высілкі сваіх сяброў.

3) коопэратыў ёсьць арганізацыя заснаваная на дабравольных пачатках: кожны сябра ўступае ў яго дабравольна і ў любы час можа з яго выступіць, сілком нікога ў коопэратыве ня трымаюць.

4) Усе сябры ў арганізацыі і кіраваньні коопэратывам маюць роўныя правы, як і аднолькавую адказнасьць.

5) Прыбыткі, якія атрымліваюцца ад коопэратыва, дзеляцца паміж сябрамі не адпаведна ўнесеным у коопэратыў сродкам (паям), а прапарцыянальна ўдзелу іх у выкарыстоўваньні коопэратыўнае гаспадаркі (па колькасьці забранага тавару ў коопэратыве і г. д.).

У далейшым выкладзе некаторыя з гэтых пунктаў будуць асьветлены болей падробна.

Пад коопэратыўным рухам трэба разумець грамадзкі рух, які мае на мэце стварэньне коопэратыўных аб‘яднаньняў, а пад тэорыяю коопарацыі — навуковае дасьледваньне гэтага руху.

Часта, у звычайнай разгаворнай мове, пад коопэрацыяю разумеюць як самы коопэратыўны рух, так у роўнай меры і рэзультаты гэтага руху ў выглядзе арганізаваных коопэратываў—г. зн. гаспадарчых прадпрыемстваў, як было гаворана вышэй.

Каб унікнуць блытаніны, трэба гэтыя два разуменьні адрожніваць адно ад другога і апрача таго ня зьмешваць з коопэрацыяю ў сэнсе тэхнічным, аб якой гаворыцца ў палітычнай эканоміі.

## 2. Рожніца паміж коопэрвтывамі і капіталістычнымі прадпрыемствамі.

Коопэратыўнае прадпрыемства трэба строга адрожніваць ад капіталістычнага, паміж якімі існуе прынцыповая рожніца. Капіталістычныя прадпрыемствы арганізованы такім чынам, што ў іх становішча ўласьнікаў і іх выгады залежаць ад вялічыні капіталу, уложанага імі ў прадпрыемства. Калі мы маем акцыянэрнае таварыства, то правы акцыянэра тым большыя, чым большай колькасьцю акцый ён уладае. Калі які-небудзь акцыянэр, прыпусьцім, уладае паловай усіх акцый пэўнага прадпрыемства, то яму прыпадае і палавіна прыбыткаў з гэтага прадпрыемства, у роўнай меры, пры вырашэньні пытаньняў на агульных сходах акцыянэрнай кампаніі, такі акцыянэр мае палову галасоў, колькасьць якіх азначаецца колькасьцю акцый.

Прыпусьцім, напрыклад, што акцыянэрнае таварыства выпусьціла 1000 акцый. У такім выпадку, той хто мае 500 акцый—мае і палову галасоў, а той, хто ўладае 1 акцыею, мае ўсяго толькі адзін голас. Прыбыткі ў акцыянэрным таварыстве распадзяляюцца па колькасьці акцый, — той хто мае іх больш, атрымлівае і большы даход, які налічваецца на акцыі.

Удзельнікі акцыянэрнага прадпрыемства могуць і не карыстацца яго паслугамі, напрыклад, уласьнік акцый якое-небудзь жалезнае дарогі ў Індыі, які жыве ў Лёндане, можа ўсё сваё жыцьцё пражыць у Лёндане і ў вочы ня бачыць гэтага прадпрыемства, аднак, акуратна атрымлівае даходы, якія дае гэта дарога. У большасьці выпадкаў так і бывае, што акцыянэры ня толькі не карыстаюцца паслугамі сваіх прадпрыемстваў, але нават рэдка калі і бачаць іх, аднак, гэта не перашкаджае ім акуратна браць з гэтых прадпрыемстваў даходы на аснове толькі аднаго ўладаньня акцыямі дадзенага прадпрыемства.

Усе гэтыя асаблівасьці востра адрожніваюць капіталістычныя прадпрыемствы ад коопэратыўных.

У коопэратыўных—перш за ўсё правы ўсіх сяброў аднолькавы, незалежна ад таго, які пай ці ўклад унёс той ці іншы сябра. Распадзел выгадаў там праводзіцца не стасоўна ўнесеным сябрамі паявым ўкладам, а ў залежнасьці ад таго, па колькі той ці іншы сябра карыстаўся паслугамі коопэратыва.

Калі ўдзельнік коопэратыва, напрыклад, сябра спажывецкага таварыства, не карыстаецца паслугамі гэтага апошняга—гэта знача, ня купляе ў ім тавару, то ён ня мае ніякіх выгад ад коопэратыву, нягледзячы на тое, што зьяўляецца яго сябрам і ўносіць пэўны пай-

„Капітал, — кажа Каренеў, — займае ў коопэрацыі службнае становішча, коопэратыў імкнецца або зусім не аплачваць паслуг капіталу, або давесьці гэтую аплату да найменшых разьмераў“ (Д. Каренеў. Коопэрацыя. Выд. 1925 г., бач. 14).

Калі, напрыклад, спажывецкае таварыства мае капітал у паёх, то яно імкнецца або выплачваць на яго сваім сябрам як найменшы працэнт, або, калі гэта зьяўляецца магчымым, зусім не плаціць. Гэта яшчэ не азначае, што коопэратыў ня імкнецца да пэўных прыбыткаў. Усялякае прадпрыемства павінна даваць пэўны прыбытак, толькі распадзел гэтага прыбытку ў коопэратыўных прадпрыемствах зусім іншы, чым ў капіталістычных. Перш за ўсё ў кожным коопэратыве адлічваецца пэўная частка прыбытку на пашырэньне прадпрыемства, другая частка, звычайна, ідзе на агульна-карысныя мэты, напрыклад, культурна-асьветныя, а рэштка—распадзеляецца паміж сябрамі коопэратыву прапарцыянальна закупленаму імі ў коопэратыве тавару. „Жаданьне паменшыць выдаткі сваіх сяброў на закупку стравы, вопраткі і іншых рэчаў спажываньня — вось што зьяўляецца мэтаю спажывецкага т-ва, у адрожніваньне ад капіталістычнага прадпрыемства, якое імкнецца даць найбольшы прыбытак сваім удзельнікам на ўкладзенны капітал“ (там-жа). Калі мы возьмем іншыя віды коопэратываў, то ўсюды знойдзем, што ўсе яны пабудаваны дзеля таго, каб абараніць сваіх сяброў ад эксплёатацыі з боку капіталу, або зьменшыць гэтую эксплёатацыю да найменшых разьмераў.

Нам цяпер няма патрэбы разглядаць усе драбніцы, якія датычаць пытаньня аб рожніцах паміж коопэратыўным прадпрыемствам і капіталістычным—пададзенага цалком хапае дзеля таго, каб у практыцы адрожніць гэтыя дзьве ўзаемна працілеглыя і ў аснове сваёй адна другой варожыя эканамічныя формацыі. Коопэратывы ствараюцца ў інтарэсах працуючых, з мэтай барацьбы супроць эксплёатацыі з боку капіталу. Капіталістычнае прадпрыемства, шляхам эксплёатацыі рабочае сілы, атрымліваньня найбольшай дадатковай вартасьці, мае на мэце збагачэньне клясы капіталістаў і ўзмацненьня эканамічнага і палітычнага панаваньня іх над працоўнай клясаю.

Ніякае праўдзівае коопэратыўнае прадпрыемства іншых мэтаў ня можа мець і адным ужо фактам свайго існаваньня робіць пралом у капіталістычнай арганізацыі грамадзянства.

## 3. Віды коопэратыўных арганізацый.

### (Клясыфікацыя кооопэратываў, як гаспадарчых прадпрыемстваў).

Акрэсьліўшы хоць-бы ў кароткіх рысах характарныя асаблівасьці коопэратыўных арганізацый, неабходна цяпер разьбіць іх па асобным групам ці відам, адпаведна тым заданьням, якія яны выконваюць.

У коопэратыўнай літэратуры існуе шмат спробаў даць правільную клясыфікацыю коопэратываў, але ўсе яны маюць тыя ці іншыя недахопы, на якіх мы спынацца ня будзем.

Паводле пануючага ў літэратуры пагляду, найбольш правільную і лёгічна пабудаваную клясыфікацыю коопэратываў дае праф. Туган-Бараноўскі, з якою мы і пастараемся азнаёміць чытача.

Усе коопэратывы могуць імкнуцца да мэтаў падвойнага характару:

1) Аб‘яднаньне тых ці іншых асобаў дзеля агульнага ўладаньня прадпрыемствам і 2) аб‘яднаньне тых ці іншых асобаў у галіне працы.

Такім чынам усе коопэратывы дзеляцца на дзьве аснаўныя групы:

1) коопэратывы ў галіне ўладаньня і 2) коопэратывы ў галіне працы.

Усе існуючыя коопэратывы зьмяшчаюцца ў гэтых двох групах і могуць быць разьмешчаны ў наступным парадку, у парадку павялічэньня іх дзейнасьці, пачынаючы ад самых простых і канчаючы больш скамплікаванымі.

Коопэратывы ў галіне ўладаньня:

1. Коопэратывы крэдытныя
2. „ спажывецкія
3. „ будоваў
4. „ агульных закупак
5. „ збыту
6. „ пераапрацоўкі

Коопэратывы ў галіне працы:

7. Коопэратывы дапамогі машынамі, арэндныя і г. д.
8. „ працы
9. „ вытворчыя.

Мы ня будзем падаваць іншых падразьдзелаў, якія робіць праф. Туган-Бараноўскі, лічачы, што падзел усіх коопэратываў на дзьве вялікія групы і клясыфікацыя іх у вядомым парадку, ў меру скамплікаваньня іх дзейнасьці, зусім хапае для нашых мэтаў.

Самым простым відам коопэратыўных аб‘яднаньняў Туган-Бараноўскі зусім правільна лічыць крэдытныя коопэратывы, заданьнем якіх зьяўляецца падзел паміж сябрамі грошаў, атрыманых шляхам пазычкі з вонку, дзякуючы агульнай адказнасьці ўсіх. Такога тыпу арганізацыі настолькі простыя і патрабаюць так мала адміністратыўнае падгатаванасьці, што без асобных высілкаў могуць быць арганізаваны нават у краёх найбольш „адсталых“ (бал. 45. Tuhan-Baranowski „Spółczesne zasady kooperacji“. Варшава 1923.).

Спажывецкія коопэратывы таксама маюць вельмі простыя заданьні, але тут ужо патрэбна больш-менш гандлёвая падрыхтоўка і само прадпрыемства зьяўляецца больш скамплікаваным.

„Таварыствы будоўлі зьяўляюцца ўжо больш труднымі, дзеля таго што патрабуець больш выдаткаў (напр. на будову дома) і на доўгі час зьвязваюць сваіх сяброў у адну гаспадарчую адзінку“...

„Таварыствы агульных закупак роўным чынам зьяўляюцца больш труднымі для зьдзейсьненьня, чым спажывецкія таварыствы, таму што інтарэсы спажыўцоў можна шмат лягчэй узгодніць паміж сабою, чым інтарэсы канкуруючых паміж сабою вытворцаў“ (ст. 95).

Коопэратывы збыту, як паказвае сама іх назва, займаюцца агульным збытам якіх-небудь прадметаў індывідуальнае працы сваіх сяброў.

„Таварыствы па пераапрацоўцы маюць больш скамплікаваныя задачы, чым звычайнае таварыства па збыту, дзеля таго што апрача збыту, арганізуе роўным чынам пераапрацоўку прадметаў, дастаўленых сябрамі“. (Сюды можна аднесьці, напр., масладзельныя арцелі).

Што тычыцца коопэратываў у галіне працы, дык іх можна разьбіць на тры групы альбо тыпы.

Машынным таварыстам і арэндным коопэратывам завуць такую кооопэратыўнаю арганізацыю, сябры якое працуюць кожны паасобку, аднак агульна ўладаюць некаторымі сродкамі вытвару. Як прыклад гэтага тыпу коопэратыва, Туган-Бараноўскі падае з галіны расейскага кустарнага прамыслу ганчарскія печы, кузьні, сушыльні і г. д., а ў сельскай гаспадарцы — коопэратыўнае карыстаньне малатарнямі і іншымі с.-гаспадарчымі машынамі.

Коопэратывам працы можа быць група рабочых, якія сумесна прадаюць сваю сілу і сумесна выпаўняюць вядомыя работы. Звычайна ў такіх арганізацыях сродкі працы належаць не паасобным сябрам, а коопэратыву, як такому.

Прыкладам такога роду коопэратыўных арганізацый зьяўляюцца арцелі газэтчыкаў, каменшчыкаў, будаўляных рабочых і г. д.

„Наастатку вытворчым коопэратывам зьяўляецца група асобаў, якая сумесна ўладае сродкамі вытвару, сумесна працуе і сумесна валадае прадуктамі свае працы“.

Гэты апошні тып коопэратыўнае арганізацыі ўяўляе найбольш скамплікаваную гаспадарчую форму, якая, як паказаў досьлед, амаль што зусім, пры сучасных варунках жыцьця, па цэламу шэрагу прычынаў, ня якіх мы ў данным выпадку ня будзем спыняцца, ня можа прывіцца.

З пададзенага намі ліку коопэратыўных формаў, якія спасьцярагаем з сучаснае практыкі, мы бачым, на колькі яны разнастайны, якое шырокае поле дзейнасьці адчыняецца для коопэратыўнага работніка, калі, вядома, да таго маюцца больш-менш адпаведныя варункі.

У далейшым мы больш падрабязна спынімся на гэтых формах коопэратываў, але не на ўсіх, а толькі на тых, якія маюць найбольшае значэньне для нашага краю і лягчэй усяго могуць укараніцца, прыймаючы пад увагу сацыяльна-эканамічныя і палітычныя варункі Зах. Беларусі.

Разгледжаньне ўсіх відаў коопэрацыі шмат пашырала-б рамкі гэтае працы, вызначанай больш для практычных мэтаў, чым для тэорытычных.

**Ф. Акінчыц.**

(Працяг будзе).

# Гадоўля трусоў.

Ніхто з нашых гаспадароў ня лічыць, што гадоўля трусоў можа быць паважнай крыніцай даходаў гаспадара, а таму і на гадоўлю іх ніхто ня зварочвае ўвагі. Тым-часам у краінах заходня-эўрапэйскіх гадоўля трусоў творыць паважную галіну жывёлагадоўлі.

Трэба спадзявацца, што гэта галіна жывёлагадоўлі будзе і ў нас чым далей, тым лепш аплачвацца. Ужо адно тое, што вываз трусіных шкурак з Польшчы загранiцу з кожным годам павялічвацца, шмат кажа на карысьць гадоўлі трусоў. Калі ў 1924 годзе было вывезяно з Польшчы нявырабленых трусіных шкурак на суму 161000 злотых, то ўжо ў 1927 г. было вывезяно на суму 2.295.000 злотых. Таксама ў вялікіх цыфрах расьце і ўвоз шкурак, перарабленых на імітацыю футраў каштоўных. Трэба спадзявацца, што такі выраб пашырыцца ў Польшчы, а разам з гэтым павялічыцца попыт на трусіныя шкуркі. Попыт на трусінае мяса, праўда, пакуль-што ў Польшчы малы, але трэба думаць, што з часам і ён павялічыцца.

Выгадна гэтая галіна жывёлагадоўлі і тым, што на разьвядзеньне трусоў патрабуецца нязначны капітал, а капітал уложаны на пракорм вяртаецца вельмі шыбка, даючы значныя гадавыя зыскі. Асабліва важна гэта цяпер, калі сялянам нашым бракуе гатоўкі, а прадукты палявое гаспадаркі маюць нізкую рыначную цану.

Зразумела, што даход у вялікай меры залежыць і ад гадаўлянага матар'ялу. Пры завядзеньні добрых футарковых рас, як чынчылі, ангельскія срабрыстыя, францускія срабрыстыя, галянскія, расейскія гарнастаі, касторрэксы і інш. і ўмелым іх даглядзе, можна мець вялікія даходы.

Мы тут ня будзем апісваць асобных рас, бо іх ёсьць шмат і хто хацеў-бы дакладна азнаёміцца з імі, павінен абзавесьціся адпаведнымі падручнікамі.

Завёўшы тую, ці іншую расу, гаспадар павінен даць ім належны дагляд. Добры стан здароўя трусоў залежыць у першую чаргу ад корму і памяшчэньня, у якім яны знаходзяцца.

Што тычыцца памяшчэньня, то трусы шмат яго не патрабуюць. Адно толькі трэба мець на ўвазе, што памяшчэньне мусіць быць сьветлым і каб у ім ніколі ня было макраты, якая трусом вельмі шкодзіць. Таксама мае вялікае значэньне для здароўя трусоў прыступ сьвежага паветра.

У гаспадарскіх будовах заўсёды знойдзецца куток, дзе можна было-б памясьціць трусоў. Калі-ж адпаведнага мейсца няма, то можна зрабіць з дошкаў скрынкі і папрырабляць да іх дзьверцы з драцяною сеткай. Для маладых трусоў трэба даць як найбольш прастору. Таксама трэба мець на ўвазе, што памяшчэньне трусоў павінна быць там дзе няма процягу (скразьняку). Далей, памяшчэньне трусоў павінна быць зроблена так, каб яго можна было лёгка чысьціць.

Далейшаю ўмоваю добрае гадоўлі трусаў ёсьць адпаведнае кармленьне.

Трусы жывяцца кормам пераважна паходжаньня расьліннага. Такімі кармамі з'яўляецца сьвежая трава, сена, караньплоды, агароднінa, зярняты расьлінаў і дрэў, макухі і інш.

Найлепшым кормам для трусоў лічыцца сьвежая трава, з якое трус любіць найбольш лісьцістыя расьліны.

Вельмі добрым кормам для труса лічыцца канюшына і люцэрна, бо маюць у сабе шмат белкавіны і мінэральных складнікоў, чаго ў вялікай колькасьці патрабуюць асабліва маладыя арганізмы. Аднак, карміць зялёнаю канюшынаю, або люцэрнаю трэба асьцярожна, бо пры спажыцьці іх трусоў можа напушыць, асабліва калі гэты корм ёсьць яшчэ мокры. Рожныя стручковыя расьліны, як віка, сэрадэля, эспарцэта і г. д. з'яўляюцца вельмі добрым кормам. Трусы са смакам паядаюць рожнае пустазельле, як палын, малачай, хрэнавыя лісьця і г. д. Любяць трусы капусту і салат, але карміць імі ў вялікай колькасьці не рэкамэндуецца. Зялёны корм не павінен быць мокрым, а калі іншага корму апрача мокрага няма (падчас доўгіх дажджоў), то тады яго трэба мяшаць з сухім сенам. Таксама шкодзіць трусом і трава, што лежачы ў кучах сагрэлася.

Трэба ўважаць, каб у корме ня было атрутных расьлін (казелец, воўчалыка, куколь, макі і інш.), бо свойскі трус вельмі пражорлівы і паядае нават шкодную для яго траву.

Зімою даецца трусом добрае мурожнае сена, канюшына, люцэрна і эспарцэта.

Добрым кормам з'яўляюцца асыпныя: морква, буракі, пастарнак, брушка, рэпа. З іх найлепшым кормам лічыцца морква. Што-ж тычыцца бульбы, то гэта добры корм, але ў сырым выглядзе яе даваць трусом ня можна.

З вялікім смакам ядуць трусы пятрушку і сэльдэрэй, але іх трэба даваць у абмяжованай колькасьці, як дамешку да іншых кармоў. Як дамешку, ў невялікай колькасьці, добра дадаваць ў корм сушаную расьцёртую крапіву, якая робіць добры ўплыў на траўленьне і палавую дзейнасьць трусоў. Таксама на траўленьне добры ўплыў робіць мята. Да таго мяту дадаюць у корм трусом некаторы час перад тым, як мае быць забіты, бо тады атрымліваецца мяса лепшага смаку. Наагул трэба сказаць, што трусы вельмі любяць араматычныя расьліны, але даваць іх трэба ў абмяжованай колькасьці.

Любяць трусы таксама лісьця і галінкі рожных дрэў, як яблыні, вярбы, клёну, дубу, рабіны і інш. Лісьця-ж вішань, сьліў і чарэшань шкадлівы для трусоў. Часта гадоўцы яшчэ з вясны запасяць галінкі дрэў (часьцей вярбы) на зіму трусом.

Апрача грубых кармоў, для пасьпешнай гадоўлі патрэбны і зернавыя кармы. Да такіх кармоў належаць: авёс, ячмень, жыта, пшаніца, льняное семя і інш. З усіх гэтых кармаў толькі жыта вымагае абярэжнасьці, бо пры большым скармленьню можа ўспушыць труса.

Пры кармленьню сьвежаю травою, або калі апрача сена даюцца яшчэ караньплоды, вада трусом, звычайна, не даецца.

Т. С.

# Больш увагі на хлеўны гной.

Што гаспадарка аплачваецца што раз горш — нікому не сакрэт. Працуе гаспадар-земляроб круглы год, а як прыдзецца „да рук брацьˮ, дык няма чым заплаціць і падаткаў. Прычынаў на гэта складаецца шмат, але найбольшая амаль з іх ёсьць не карысная рыначная цана на прадукты земляробскае вытворчасьці. Прадаваць сёньня пуд жыта за 2 злотыя земляроб ніяк ня можа, а больш ня плацяць.

Які выхад з гэтага? — Перад усім трэба т. ск. „перастроіцьˮ гаспадарку, дастасоўваючы яе да вымогаў рынку: не аплачываецца прадавацць збожа — не даваць яго туды, вырабляючы толькі гэтулькі, колькі патрабуецца ўва ўласнай гаспадарцы.

Гэткі паварот у кіраваньні земляробскім вытворствам азначае адхіл ад дагэтуляшняе засады **найбольшага ўраджаю,** дасягаемага між іншым пры помачы сільнага ўгнаеньня; ураджай ледзь-ледзь сёньня аплачвае толькі спатрабаваныя гнаі, а ня раз не дае нават і гэтага. Сягоньня сільнае ўгнаеньне, калі гной трэба купляць, агулам не аплачваецца.

Але з другога боку, наша зямля не чарназём і ня ўгноеная ня родзіць. Дзеля таго гнаіць трэба, а на ўгнаеньня браць тое, чаго гаспадар не патрабуе купляць. Такім угнаеньнем ёсьць у першую чаргу **хлеўны гной.** Ці аднаго яго на ўгнаеньня нашых грунтоў хопіць — іншая справа, але тут-жа трэба зазначыць, што наш земляроб да сягоньня абходзіцца з хлеўным гноем ня ўмее і што калі-б з гэтымжа гноем належна абхадзіўся, дык меў-бы з яго найменш двойчы гэтулькі карысьці, колькі мае дагэтуль.

Добра ўтрыманы хлеўны гной ёсьць гноем найлепшым і гэта з двух прычынаў: мае ў сабе ўсе спажыўчыя складнікі для расьліны і будучы сам жывым, ажыўляе глебу. Пытаньне цяпер: як абходзіцца з хлеўным гноем, каб мець з яго гэткія карысьці.

Перадусім сьцьвердзіць трэба адзнакі добрага гною, а тады будзе ясным, што ўплывае на гной дрэнна. Добры хлеўны гной прадстаўляе сабой раўнамерную мешаніну калу жывёлы з падсьцілкай, мерна перямешаную вадзяністымі выдзелінамі — мачой. Усё што робіць гной іншым, напр. саломістым, сухім і г. д. ўплывае шкодна, а гной такі робіцца часта бязвартасным. З гатага выплывае спосаб ці так званая тэхніка перахаваньня гною, які, як ужо гаварылася, мусіць быць раўнамерна перамашан з падсьцілкай (саламай, торфам і інш.), бо гэткі толькі гной здольны затрымаць ў сабе рэдка вадзяністую мачу.

Перамешваньне гною з падсьцілкай рэч так простая, што бадай не патрабуе ніякіх паясьненьняў. Інакш рэч маецца з затрыманьнем у гнаі вадзяністае мачы, каторая іпры найстараньнейшым перамешваньні гною ўсёроўна ападае на ніз. І калі спод гнойнішча (або хлява) прапускны, напр. з пяску, дык тады мача ня затрымліваецца і ў найніжэйшым пласьце гною, прасочваецца ў зямлю і безкарысна прападае. Але не канечна мусіць такая мача прасочвацца і ў зямлю:

яна можа проста выплываць з-пад гною адцякаць куды-небудзь на бок, прападаючы таксама бескарысна. Не канец аднак і на гэтым, бо мача ўцякае з гною ня толькі ў зямлю, ня толькі расплываецца ручаямі на ўсе бакі—яна „ўцякае“ таксама ў паветра, выпарваючыся як бялявы дымок, як туман; гэта ўцякае з гною яго найважнейшы складнік — азот у форме амоніяку (нашатыру).

У той час, калі выцяканьне мачы з гною на бакі, або прасочываньне яе ў прапускную падыспадам зямлю, было выклікана галоўным чынам неадпаведным выбарам мейсца пад гнойнішча, — прычынай выпарваньня гною ў паветра ёсьць неадпаведнае ўкладаньне самога гною, пазваляючае на лёгкі доступ туды паветра, якое гной, можна сказаць, пажырае.

З гэтага вынікаюць правілы ўкладаньня гною так, каб не рабілася ў ім страты ані ў зямлю, ані на бакі, ані ў паветра. У зямлю ня пойдзе мача, калі грунт падыспадам будзе непрапускны (глей, гліна). Калі-б так здарылася, што хлеў або гнойнішча мусяць быць на пяску, дык няма іншае рады, як навазіць на такі пясок і паўбіваць пласт гліны ўтоўшчкі да 15 цаляў. Тое самае з адплываньнем мачы на бакі: калі гной ляжыць ў хляве, дык такі хлеў мусіць мець або непрапускныя сьцены (перадусім падмуроўку), або — што ўдаецца найлепш—хлеў мусіць быць глыбокі: мача стаіць тады, як у талерцы і ня мае адплыву. На выпадак, калі гной ляжыць на гнойнішчы, дык такое гнойнішча мусіць: 1) мець непрапускны спод, 2) бакі мусіць мець абведзены нейкім непрапускным валам (хоць-бы толькі нават з гліны). Апрача таго гною, як ў хлеве, так і на гнойнішчы, загражае падплываючая вада з надворку, якая гной выпаласківае: хлеў і гнойнішча трэба абвесьці малым раўком, праз які наплываючая вада адводзілася-б у бок.

Страты на гнаі праз выпароўваньне можна ўнікнуць не дапускаючы ў гной паветра. Адносіцца гэта перадусім да гною на гнойнішчы і пры развожваньні на поле.

На гнойнішчы трэба гной ўкладаць роўнымі ня шырокімі пластамі і заўсёды старанна ўтоптываць. Нельга на такое гнойнішча выпускаць сьвіней, бо яны гнойнішча разрываюць і тым самым праводзяць у гной паветра. Пры вывожваньні гною на поле, трэба глядзець каб ён як найхутчэй быў заараны ў зямлю. Найлепшы парою да вывожваньня гною ёсьць пагода захмураная, але заворываць гной ў прамокшую зямлю ніколі нельга.

Гэта найагульнейшыя правілы, якімі трэба карыстацца пры пераховываньні хлеўнага гною.

Гаспадар.



# Лён (linum utitatissimum).

Адною з тэхнічных расьлінаў, якая добра расьце ў нашым краю, з'яўляецца лён. Ня гледзячы на тое, што лён вымагае шмат працы, сеяць яго вельмі карысна, бо даход ад яго атрымліваецца ў тры і чатыры разы большы, чым ад звычайных збажовых расьлінаў.

Лён сеюць з мэтаю атрыманьня выключна валакна ці толькі семя, або, як гэта ў нас ёсьць, — таго і другога разам. Найбольш пашыранай адменай лёну ёсьць „vulgare“ або велькалён. Лён належачы да гэтае адмены адзначаецца вялікім ростам і моцным валакном; галоўкі яго, у якіх знаходзіцца семя, па дасьпяваньні самі не распадаюцца, як гэта ёсьць у адмены crepitans, дзеля чаго апошні і завецца самасеем. Самасей не расьце высока, а таму пераважна сеюць яго для атрыманьня семя. Велькалён вымагае лепшае глебы і больш вільгаці, тады як самасей зносіць і сушэйшы клімат. Найлепшымі сартамі лёну з адмены велькалёну лічацца: рыскі, парнаўскі і пскоўскі.

Лён вымагае шмат вільгаці як у глебе, такі і ў паветры. Засух не пераносіць. Найлепшыя гатункі валакна атрымліваюцца на нізка паложаных глініста-пяшчыстых і пяшчыста—глiністых грунтах. Вапенных грунтоў лён ня зносіць. Не рэкамэндуецца глебу безпасярэдна пад лён вапнаваць — атрымліваецца крохкае валакно. Для добрага росту лён вымагае перагною ў глебе, але ня шмат. Не ўдаецца на мейсцах высока паложаных і сухіх. Ня можна сеяць лёну на тарфяной глебе.

Што тычыцца мейсца лёну ў севазвароце, то можна агулам сказаць, што лён найлепей родзіць па кармовых травах і канюшыне. Асабліва расьце добра, калі канюшына была густая і добра зацяняла грунт. Таксама ўдаецца лён па асыпных, горэй па збажовых, з якіх найгорш па ячменю. Вельмі кепска расьце лён пасьля стручковых, асабліва пасьля гароху.

Пасьля лёну можна сеяць жыта, авёс, грэчку. Неўдаюцца пасьля лёну пшаніца, асыпныя і ўсе стручковыя, асабліва гарох. Ня можна высяваць лён два гады падрад на адным мейсцу, а таксама не павінен лён сеяцца на тым самым мейсцу раней як праз 6-8 гадоў.

Выняткова можа быць высеяны лён два гады падрад на сьвежа разробленых сенажацях або навінах.

Пры гэтым араць глыбока сенажаці ня трэба, каб верхні ўраджайны пласт не папаў глыбока ў зямлю. Лепей у такіх выпадках пусьціць за плугам паглыбяч. У дробных гаспадарках, дзе абзаводзіцца паглыбячом побач з плугам каштоўна, можна для гэтае мэты ўжыць стары плуг, адкінуўшы паліцу, або сошку. Паглыбяч вельмі карысная рэч у гаспадарцы, бо глыбока ўспульхненай зямлі патрабуе на толькі лён, але і ўсе асыпныя.

Прыгатаўленьне глебы пад лён трэба зачаць з сярэдзіны лета. Калі лён мае быць засеяны пасьля збажыны, то ірышча трэба заараць і забаранаваць зараз-жа пасьля жніва. Далей поле трэба час ад часу баранаваць у меру з'яўленьня пустазельля, ад якога поле павінна быць чыстым. На зіму арэцца глыбока, пры чым пускаецца

паглыбяч і поле ў такой грубай баразьне пакідаецца зімаваць. Араць трэба на колькі можна шырокімі скібамі, каб мароз да ральлі меў як найбольш прыступу. Вясною, як найраней трэба забаранаваць, каб зьменшыць выпароўваньне вільгаці і ў меру з'яўленьня пустазельля ізноў баранаваць. Поле павінна быць чыстым ад пустазельля, якое вельмі шкодзіць лёну. З гэтае прычыны пад лён ня можна даваць гною беспасярэдна, бо ў гнаі маецца шмат насеньня пустазельля.

З штучных гнаёў лён найбольш патрабуе паташовых. Соль паташовую можна даваць за 10—12 дзён перад пасевам. Каініт (таксама паташовы гной) лепей даць з восені. Калі-ж, па тым ці іншым прычынам, гноіцца каінітам вясною, то трэба даць яго не пазьней, як за 2—3 тыдні перад сяўбою. Даецца каля 300 кілёграмаў (каля 18 пудоў) солі паташовай на дзесяціну, або каля 500 кілёграмаў (каля 30 пудоў) каініту. З добрым пасьпехам для гэтае мэты можа быць ужыты і попел.

Зямля перад пасевам павінна быць добра апрацавана баронамі і культыватарам. Калі-ж, дзеля ўспульхненьня зямлі, патрабуецца вясеньняя ворка, то трэба правесьці яе за два тыдні перад пасевам і зараз-жа забаранаваць

Наагул, пасьля кожнай вясеньняй воркі, трэба поле баранаваць, каб не дапусьціць вялікага выпароўваньня вільгаці з зямлі.

Сеяць лён трэба вельмі плытка, дзеля таго, што семядолі зярняці толькі пасьля таго, як вылезуць на паверх, ськіваюць лупінку. Плыткі пасеў дасягаецца тым, што поле перад пасевам барануецца, а пасьля пасеву забараноўваецца лёгкімі баронамі.

Насеньне павінна быць добра вычышчана; асабліва трэба ўважаць, каб у ім ня было зярнят павілікі льняное (cuscuta epilinum). Льняное семя ня траціць свае сілы прарастваньня ў працягу 6 гадоў. Добра пераханае колькігадовае насеньне (3—4 гады) дае лепшыя вынікі.

Гушчыня пасеву залежыць ад таго, дзеля якое мэты сеецца лён — на валакно, ці на семя. Чым гусьцейшы пасеў, тым валакно лепшае.

Калі сеецца лён з мэтаю атрыманьня семя і валакна, то раіцца высяваць каля 120 кілёграмаў (прыблізна $8^1/_3$ пудоў) на дзесяціну. Пры пасеве выключна на валакно высяваецца і больш 200 кілёграмаў (12 пудоў).

Семя павінна мець добрую ўсхожасьць. Зярняты павінны быць выпаўнены. Добрае семя, калі сыплем яго ў ваду, ня плавае на вадзе, а патане на дно. Калі ў добрае семя засунуць сухую не спацеўшую руку і пасьля выняць, то на руцэ павінна затрымацца шмат зярнят.

Сеюць лён у канцы мая. Лён, які сеецца на семя, павінен высявацца раней, чым той, што сеецца на валакно.

Вялікае значэньне для ўраджаю адыгрвае пара пасеву. Маладым расьлінкам шкодзяць прымаразкі і халодныя вятры. Пры ранінім пасеве застаецца ў зямлі шмат насеньня пустазельля, якое не пасьпее пра·асьці і ня можа быць перад пасевам зьнішчана баранаваньнем. Потым гэтае насеньне прарастае і глушыць лён.

Далей — пры раньнім пасеве хутчэй можа на паверхні вытварыцца скарынка, якая не дае магчымасьці маладым расьлінкам прабіцца на паверх.

Аднак, з другога боку, ня можна і пазьніцца з пасевам, бо раней засееный лён не баіцца так засухі і ёсьць адпарнейшым супроць земляное блыхі (haltica nemorum).

Калі пасьля пасеву на паверхні глебы зьявіцца скарынка, што лёгка можа стацца, бо ўсходзіць лён пасьля пасеву за 8—10 дзён, тады трэба поле праехаць персьцянёвымі вальцамі. Замест персьцянёвага вальца можна ўжыць дзеравянога вальца з набітымі дзеравянымі зубамі.

Калі лён падрасьце на 1½—2 вяршкі і заўважыцца, што на полі ёсьць шмат пустазельля, тады лён трэба абавязкава выпалаць. Палоць трэба ў пагодныя дні, калі няма расы і калі зямля ёсьць трохі вільготнаю.

Бывае, што лён ад тае ці іншае прычыны паляжа. У такіх выпадках, калі лён ўжо адцьвіў ці адцьвітае, трэба яго зараз-жа вырваць і такім чынам можна атрымаць яшчэ добрае валакно, бо насеньне, так ці іначай, усё роўна прападзе. Лён, які паляжа перад адцьвітаньнем, трэба лічыць прапаўшым і загараць.

У эўрапэйскіх краінах, дзе высяваюць лён на валакно вельмі густа, супроць паляганьню робяць спэцыяльныя падпоркі. Падпоркі гэтыя робяцца такім чынам: на пэўных водступах убіваюцца ў зямлю радкамі разьвідленыя ў верхняй сваей частцы калкі. Вышыня калка ад зямлі павінна быць каля 7 вяршкоў. Цераз калкі перакідаюцца тонкія жэрдачкі, а на іх у поперак кладуцца тонкія пруты. Такім чынам творыцца як-бы сетка, якая не дае потым лёну палегчы.

**С. Б.**

## ПАПРАЎКІ:

У нумары 3 „Сахі" заўважаны наступныя памылкі:

1) На старонцы 55, радок 15 зьнізу, замест: „падлягае лепшым пераходавым ваганьням", трэба чытаць: „падлягае меншым пераходавым ваганьням".

2) На старонцы 59, у першым і другім радку зьверху, замест: „на правох усіх боскіх і людзкіх законаў", трэба чытаць: „са зьдзекам над усімі боскімі і людзкімі законамі".

3) У гэтым-жа нумары (4), у загалоўку, на ст. 94, замест: „linum utitatissimum", трэба чытаць: „linum usitatissimum".

# ПЧАЛЯРСКІ АДДЗЕЛ.

Пад рэдакцыяй старшыні Бел.
Каапэратыўн. Т-ва „Пчала“
Людвікі Войцікавай.

## Як я выкарыстаў надстаўкі ў калодах?

(Канчатак).

Без параўнаньня лягчэй дапасаваць надстаўку да стаяка, асабліва, калі ён тоўсты. Вельмі пажадана, каб рамкі ў надстаўках былі поўныя вашчыны.

Калі стаіць добрае медабраньне і бываюць цёплыя ночы, то пчолы, асабліва на ноч, як у вульлі бывае духата, паступова налазяць у надстаўкі ды складаюць там мёд.

У канцы мёдабраньня мае надстаўкі бываюць поўныя мёду, я пчолы больш ня лаю і яны акром таго, яшчэ занясуць поўны вулей вашчыны, якая пры павялічэньні пасекі мае вялікую вартасьць.

Але пры гэтым можа узьнікнуць пытаньне: а ці наносяць гэтыя пчолы сабе даволі мёду на зіму ў галовы і ці не пагражае ім небясьпека голаду, бо ня бачыш колькі яны сабе панасілі ў галовы. Вось-жа на гэтае пытаньне я адкажу з сваёй колькі-гадовай практыкі. Ня было яшчэ выпадку, каб гэтыя пчолы галадалі, або каб з зімы яны выходзілі слабыя. Значыць, у іх было даволі мёду і на зіму і на раньнюю вясну. Ды я цяпер сьмела, без усякага сумліву, стаўлю што год надстаўкі. Такім спосабам я дабіўся даходу ад гэтых двох вульлёў, якія я называў гультаямі, дармаедамі. Цяпер я іх аднолькава цаню нароўні з іншымі вульлямі, што даюць даход. Зразумела, бываюць такія гады, калі ня толькі гэтыя два вульлі не даюць мёду, але і іншыя. Гэтакія гады няўдалыя і мёдазбор незалежыць ужо ад пчол.

Я ўжо далёкі ад таго, каб вазіцца на пчальніку з вульлямі-калодамі і паступова замяняю іх рамовымі. Але за кароткі час гэта зрабіць трудна, так што часьць пасекі яшчэ застаецца ў калодах. Вось, дзеля якой прычыны я мусіў датарнаваць надстаўкі да тых калодаў, якія не давалі ні мёду, ні раёў, а сем'і былі вельмі сільныя. Ды на гэтым я ня страціў, а выйграў.

З вышэй сказаным я падзяліўся з сябрамі-пчалярамі не для таго, каб радзіць трымацца і надалей калодаў, а дзеля выкарыстоўваньня іх у пэўных выпадках, калі часова замяніць іх рамовымі вульлямі няма магчымасьці, а пчолы ў калодах не даюць ніякага даходу ні мёдам, ні раямі. А гэткія выпадкі, нажаль, здараюцца.

Агульна вядома, што пчолы трэба вясьці ў рамовых вульлёх, бо лепш можна іх даглядзець і больш мець даходу, а калі ў рамовых, ды яшчэ ўжываць надстаўкі, то яшчэ больш будзе даходу.

**Я. Шнаркевіч.**

# Некалькі словаў аб жыцьці пчол.

У сучасны момант пчолы амаль што не спатыкаюцца дзікімі, а жывуць пры чалавеку ў асобна пабудаваных вульлёх. Чалавек імі апякуецца, а пчолы даюць яму воск і мёд. Але быў час, калі пчолы былі толькі дзікімі і пладзіліся галоўным чынам у дуплох дрэваў. Гэты парадак жыцьця пчолы стараюцца захаваць і цяпер, калі ёсьць адпаведныя варункі — дуплястыя дрэвы ў ваколіцы. Трудна ўтрымаць рой, калі ён знойдзе такое дрэва: рвецца ён да яго падчас раеньня, а таксама і тады, калі пасаджаны ў вулей пасьля раеньня. Уцёкшыя пчолы стараюцца захаваць сваю патаемнасьць.

У маёй практыцы быў такі выпадак. Рой, пасаджаны ў вулей (калоду), на другі дзень уцек у лес. Адразу знайсьці яго ня прышлося. Прайшло некалькі тыдняў. У ціхі летні дзень праходзіў я праз лес. Сярод лесу раптам пачуў я нейкі шум, як бы ад цягніка, але цягніка ня можна было чуць у гэтым мейсцы. Гэта зацікавіла мяне і я затрымаўся. Калі я стаяў і аглядваўся, шум раптам сьціх, а одна пчала кінулася на мяне і ўсадзіла жала ў вока. Я дагадаўся, што той рой тут. Скора я знайшоў яго памешканьне.

Цікава тут тое, ад чаго быў шум і чаму ён раптам сьціх. Адказ просты. Калі ў вульлі горача ці ёсьць вільгаць, пчолы стараюцца свае памешканьне вэнтыляваць. Дзеля гэтага ў вылётныя дзірачкі некалькі пчолаў, учапіўшыся нагамі за вулей, махаюць крыльлямі і такім чынам рухаюць паветра. На мейсца парушанага паветра з вульля выходзіць перагрэтае ці вільготнае паветра.

Відаць, пчолы мелі старажоў, каторыя, убачыўшы зацікаўленага чалавека, нейкім спосабам, падалі да ведама жывых вэнтылятараў, а тыя адразу сьціхлі, каб скрыць сваё памешканьне.

Мала таго, што сьціхлі, але сталі бараніць сваю патаемнасьць. Бедныя пчолы, астатнім крокам выкрылі сябе. Пчолы былі выкураны.

У дупле, дзе былі пчолы, было вільготна, апрача таго, можна было заўважыць натуральны спосаб залажэньня пластоў воску — краямі да вылётнае дзірачкі, каб сьвежае паветра вольна праходзіла да ўсіх пластоў гнязда.

Гэтае палажэньне пластоў, як натуральнае, павінна быць захавана і ў рамовых вульлёх.

М. С.

# Сёлетні збор.

## Вёска Сасная Ліпка, Нясьвіжскага павету.

## Мёдазбор у сёлетнім годзе.

Прачытаўшы з зацікаўленьнем у папярэднім нумары паважанай часопісі „Саха“ карэспандэнцыю аб мёдазборы ў Стаўпецкім павеце, я хачу падзяліцца сваімі ўражаньнямі з сябрамі-пчалярамі аб стане пчалярства і мёдазборы ў сёлетнім годзе ў нашай мясьцовасьці — каля м. Нясьвіжа.

З зімы пчолы вышлі добра. У вясну пчолы ўзмацніліся, але перад летам сільныя вятры, халодныя, хоць і ясныя дні, моцна аслабілі сем'і. У гэты пэрыяд ня толькі шмат пчол гінула ў полі, але дзякуючы засусе, а ў зьвязку з гэтым — браку пажывы, сем'і павальней размножваліся, ды к самаму мёдабраньню не сабраліся з поўнай сілай. Раёў з калодаў у нашай мясцовасьці амаль зусім ня было, а рамовых нельга было размнажаць, бо сем'і былі ня вельмі сільныя ды быў ужо позьні час. Так пасекі, можна сказаць, не папоўніліся, а засталіся ў той самай меры, калі ня зьменшыліся.

У часе мёдабраньня ізноў-жа былі вятры і холадна, парных начэй амаль зусім ня было. Галоўны збор у нас з грэчкі і сэрадэлі. Сэрадэля сёлета была вельмі благая. Вось гэтыя ня спрыяючыя варункі дрэнна адбіліся на мёдазборы: у сярэднім кожны вулей на маёй пасецы даў каля 20 фунтаў. У параўнаньні з леташнім мёдазборам — палавіна,

У часе і пад канец мёдазбору ў гнёздах было шмат чарвы, зразумела, гэта таму, што было слабае мёдабраньне. Ад іншых суседніх пчаляроў чуў тое самае.

Слабы сёлета пчалярскі інтэрас, сапраўды, пагаршаецца яшчэ не арганізаванасьцяй збыту мёду. Прыкра было бачыць, калі на рынку пчаляр за бесцан прадаваў свой мо' апошні пуд мёду: гандляры плацілі па 30 злотых пуд. Ды гэтае пытаньне наагул вельмі балючае. Запрацаваны мёд збыць за бесцан, а купіць пчалярскую прыладу трудна, бо дарага.

Кожны пчаляр мусіць падумаць ды шукаць выхаду з гэтага цяжкага палажэньня. А раду да выхаду дае нам адзін сябра ў папярэднім нумары „Сахі“: гэта ўступіць у сябры нашай коопэратывы „Пчала“, якая мусіць арганізаваць збыт мёду і куплю прыладаў. А гэтую працу можа выканаць толькі тая арганізацыя, у якой будуць аб'яднаны заінтэрасаваныя сябры-пчаляры.

Я. Ш.

# Рознае.

## Хварба да вульлёў.

1 частка паленай вапны, 3 ч. цёртай цэглы і 3 ч. перасеянага попялу. Гэта ўсё добра разьмяшаць і разьвясьці зьбіраным малаком. Калі такую сумесь зрабіць густой, як яловая смала, то можна ёю шпакляваць шчэлкі, а калі яе разьвясьці да густаты сьмятаны — то можна маляваць вульлі. Хварба гэта сохне ў працягу аднаго дня, а трымаецца да 10 гадоў.

(„Украінский Пасічник").

## Штучныя плястры Вінсэнта.

В. В. Вінсэнт у Каліфорніі вынайшоў машыну, каторая з растопленага воску вырабляе штучныя плястры, якія нічым не адрожніваюцца ад плястраў збудаваных пчоламі. Плястар вырабляецца адразу ў рамцы і такім чынам адпадае небясьпека асяданьня яго, што часта здараецца пры ўжываньні вузы.

„Bees and Honey" 1928 г.

## Персыія пчолы.

Паводле чутак, пчолы, якія знаходзяцца ў Пэрсыі, у Карассанскім абводзе, перанесяны туды з Індыі. У гэтым абводзе ў мяйсцовасьці Міанабад пчалярства найбольш распаўсюджанае. Займаюцца ім мяйсцовыя жыхары—пэрсы, трымаючы пчол у калодках і дагледаючы іх самымі дапатопнымі спосабамі. Ня гледзячы на гэта, пчолы даюць добры даход. Зімуюць усе на дварэ. Вясною, як толькі пчолы пачнуць працаваць, пчаляры робяць гэтак: у калодах ёсьць 4-6 дзірак, якія на зіму затыкаюцца, а вясной у іх устаўляюць г. зв. бутэлькавыя гарбузы (гарбузы, якія маюць форму бутэлькі-пляшкі) чыста ў сярэдзіне выдаўбяныя. Пчолы вельмі хутка забудоўваюць гэтыя гарбузы вашчынай і заліваюць мёдам, якога ў кожны гарбуз ўлазіць ад 4 да 8 кілё. Запоўненыя гарбузы забіраюць і зямянаюць іх пустымі. Гэтакім чынам з калодаў атрымліваюць да 32 кіл. мёду.

У Пэрсыі аб рамовых вульлёх і аб пушніцах не маюць паняцьця.

„Пчеловодное Дело"— 1929 г

# Дробныя парады.

### Як самаму вырабіць трусіную ці заячую скурку.

Сьвежа зьнятую скурку трэба ачысьціць ад тлустасьці, добра разапнуць на дошцы і папрыбіваць па краёх цьвікамі. Потым скурка націраецца спэцыяльнаю рашчынаю, якая прыгатаўляецца наступным спосабам: у 1 літры вару распушчаецца 100 грамаў галыну і 25 грамаў кухоннае солі. У гэтай рашчыне намочваецца ганучка і моцна націраецца скурка (трэба старацца, каб як найбольш уцерці рашчыны ў скурку). Націраньне робіцца што дня ў працягу 6 дзён, пакуль скурка не пабялее.

Потым скурка добра высушваецца і здымаецца з дошкі. Калі пасьля гэтага скурка астаецца цьвёрдаю, трэба яе змазаць аліваю. Замест алівы можна скурку памазаць клейстрам з жытняе мукі. Клейстар павінен перад ужываньнем пастаяць у цёплай печы, каб заквасіўся. У працягу аднае пары скурка ад клейстру ачышчаецца і націраецца крэйдаю.

### Запарваньне сечкі і мякіны.

Часта нашы гаспадары, прыгатаўляючы корм для кароў, запарваюць сечку і мякіну гарачаю вадою. Есьць яшчэ і іншы спосаб, які палягае на тым, што сечка ці мякіна запарваюцца, дзякуючы самасаграваньню. Паранка па гэтаму спосабу прыгатаўляецца так: пэўная колькасьць сечкі ці мякіны, якая мае быць скормлена за дзень, усыпаецца пластамі ў бочку ці цэбар і скрапляецца вадою. Вады трэба даваць столькі, каб пры сьцісканьні ў руццэ сечкі тварыўся камяк, але каб вада не выціскалася. Добра да сечкі, ці мякіны дадаць яшчэ трохі солі. Пасьля бочку трэба прыкрыць векам, а на века палажыць яшчэ камень і пакінуць так бочку ў працягу 3-ох дзён. Сечка ці мякіна ў бочцы саграецца і заквасіцца, пасьля чаго робіцца смачнейшаю і з ахвотаю паядаецца жывёлаю. Зразумела, што бочка павінна стаяць у цёплым мейсцы. Пры жаданьні мець кожны дзень такую паранку, трэба абзавесьціся трыма бочкамі і ў першыя тры дні напаўняць кожны дзень па бочцы, а на чацьверты дзень паранку з першай бочкі трэба выбраць і замяніць сьвежаю, на пяты дзень тое самае робіцца з другою бочкаю і г. д. Вобмешку, буракі, бульбу і інш. кормы ня можна запарваць разам з сечкаю, а трэба дадаваць іх перад самым кармленьнем. Бочкі раз на тыдзень трэба добра вычысьціць і вымыць.

### Як захаваць ад іржы інструманты.

Кожнаму вядома, што заржавеўшы інструмант, будзь то піла, каса, серп, долата, плуг і інш. трацяць на сваёй вартасьці і з часам робяцца зусім няпрыгоднымі для працы. Каб інструманты захаваць ад іржы можна параіць наступны сродак: узяць 100 гр. (1/4 фунта) бараньняга сала, парэзаць на скваркі і на лёгкім агні растапіць у рондлі. Тлустаць зьліць у іншую пасудзіну, стараючыся, каб туды непапала ані воднае скваркі

Рондаль ачышчаецца ад скварак і ўжо ў чысты—уліваецца чыстая тлустаць, да якой дадаецца $^1/_5$ частка жоўтага воску. Гэтую рашчыну ставяць у саган з гарачаю вадою і грэюць. Калі рашчына ад награваньня пачынае пучыцца, трэба ўважна глядзець, каб да паловы рондля яна не падымалася, у праціўным выпадку, рондаль з рашчынаю выймаецца з вады. Калі рашчына добра разьмяшаецца і зробіцца аднолькавай, да яе дадаецца расьліннага алею (драўнянага або кунжутнага, але ні ў якім выпадку не льнянога) і добра разьмешваецца дзеравянаю ложкаю. Калі рашчына загустая, яе растапліваюць і зноў дадаюць алею. Гэтаю рашчынаю і трэба змазваць інструманты.

# ХРОНІКА

**Беларускія кооперацыйныя курсы праз карэспандэнцыю.** Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні распачаў ужо працу па курсах. Першыя лекцыі ўжо разасланы слухачом, якіх налічваецца каля 150 асобаў. Курсы бясплатныя, курсанты аплачваюць толькі кошты перасылкі, паперы і друку, што выносіць у месяц тры зл. Курсы будуць трываць 10 месяцаў і будуць абнімаць усе галіны кооператыўнае веды. Прыймо курсантаў яшчэ ня спынена. Хто жадае пастуціць на гэтыя курсы павінен у найхутчэйшым часе прыслаць заяву, па адрасу: Białoruski Związek Akademicki, Wilno, ul. Wileńska 8 — 3. У заяве павінна быць адзначана: 1) Імя і прозьвішча, 2) Век, 3) Адрас, 4) Асьвета (на курсы прыймаюцца скончыўшыя найменш 3 аддзелы пачатковае школы і 5) Ці знаёмы з коопэрацыяй і ці цікавіцца ёю.

**Беларускі Гаспадарчы Календар „Рольнік“.** Выйшаў з друку і прадаецца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях Беларускі Гаспадарскі Календар „Рольнік“. Цана паасобнага календара без перасылкі – 2 зл.

**Сьвяткаваньне 10-ых угодкаў сьмерці Францішка Багушэвіча.** 7 гэтага месяца ў Вільні адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 30 угодкам сьмерці беларускага пісьменьніка—народніка Францішка Багушэвіча, аўтара „Беларускае Дудкі“ і „Беларускага Смыка“. Ф. Багушэвіч памёр у 1900 годзе 15 красавіка і пахаваны ў м. Жупранах, Ашмянскага павету. Акадэмія складалася з рэфэрату на тэму: „Францішак Багушэвіч як паэт і грамадзянін“, успамінаў, з якіх вельмі цікавы быў асабістага прыяцеля пакойніка — Зыгмунта Нагродзкага, дэклямацыі і сьпеваў.

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Прасьв. і Гаспад. Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

Выйшаў з друку і прадаецца

# Белар. Адрыўны Календар (блёк)

Беларускага Выдавецкага Т-ва **на 1931 г.** Беларускага Выдавецкага Т-ва

**Друкаваны кірыліцай і лацінікай, з праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятамі, паводле новага і старога стылю.**

Календар зьмяшчае ў сабе аддзелы: мастацка-літэратурны, навуковы, астранамічны, гумарыстычны, нацыянальна-грамадзкі, школьны, гістарычны, мэдыцынскі, сельска-гаспадарчы, пчалярскі, коопэратыўны і шмат практычных парадаў на розныя неабходныя патрэбы ў штодзенным хатнім і гаспадарчым жыцьці.

—— Цана календара 1 зл. 25 грош ——

**Перасылка заказным друкам 70 грош., а простым — 30 гр., у большым ліку паводле паштовае тарыфы.**

**ХТО КУПЛЯЕ:**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ад | 10 штук да | 25 штук, | дастае | сьнідкі 10 | працэнтаў. |
| „ | 25 „ „ | 50 „ | „ | „ 15 | „ |
| „ | 50 „ „ | 100 „ | „ | „ 20 | „ |
| „ | 100 і болей | „ | „ | „ 25 | „ |

Заказы выконваюцца за гатоўку, або накладной платай ня менш як на 5 зл. па атрыманьні задатку ня менш 1/3 вартасьці заказу. Без задатку заказы ня будуць выконвацца. Перасылка за кошт заказчыкаў.

Дзеля таго, што календар выданы ў абмежаванай колькасьці, заказы выконваюцца ў парадку іх паступленьня.

**У крэдыт кнігарня Б. В. Т. календару не дае.**

**СЬЦЕНКІ ДА КАЛЕНДАРА (блёка)** шматкалёрнага мастацкага выкананьня з абразкамі родных малюнкаў вясны, лета, восені і зімы ў аправе ўзораў беларускіх тканін і паясоў. **Цана 35 гр.** Ськідка атрымоўваецца залежна ад ліку, як і на календары.

**Галоўны склад: Беларуская Кнігарня Белар. Выдавецкага Т-ва Вільня, Вострабрамская вул. № 1.**

УВАГА. Беларускі адрыўны календар Беларускага Выдавецкага Таварыства быў выдаваны на 1927 г., 1928 г. і 1929 г. і добра ведамы яго чытачом. Купляйце адрыўныя календары ведамага вам Беларускага Выдавецкага Таварыства.

Пры куплі календара Бел. Выд. Т-ва трэба зьвяртаць увагу на вокладку, на якой напісана, што гэта календар Беларускага Выдавецкага Т-ва і павінен мець значок Выдавецтва—васілёк з каласамі.